№ 24-25 (51-52)
Декабрь 2008 г.

# Глуская ПАНОРАМА

Общественно-политическая газета

КАЛЕНДАРЬ

## ДЕКАБРЬ



**20 декабря 1522 г.** основан Глуск Дубровицкий

**25 декабря 1895 г.** (по другим данным - 14 октября 1898 г.) в деревне Байлюки родился Явхим Кипель, секретарь отдела природы и народного хозяйства Института белорусской культуры, репрессированный в 1930 г.

**В декабре 1918 г.** в Глуске восстановлена Советская власть.

**2 декабря 1941 г.** фашисты произвели массовый расстрел евреев на Мыслочанской горе под Глуском.

**11 декабря 1960 г.** Николай Володько нашел монетный клад из 760 монет при рытье траншеи по ул. Кирова в Глуске.

**25 декабря 1962 г.** Глуский район ликвидирован. Его территория передана Бобруйскому району.

**18 декабря 1988 г.** в Глуске создан клуб «Общение» при районной библиотеке.

**В декабре 1999 г.** вышел первый номер информационного бюллетеня районного клуба избирателей.

**В декабре 1999 г.** вышла из печати книга «Глуская зямля: дыялог з гісторыяй».

**11 декабря 2002 г.** умер Сергей Граховский, белорусский поэт, прозаик и переводчик, чье детство и юность прошли в Глуске.

## ГРАМАТА ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ ЛІТОЎСКАГА І КАРАЛЯ ПОЛЬСКАГА ЖЫГІМОНТА І СТАРОГА КНЯЗЮ ЮРЫЮ ДУБРОВІЦКАМУ АБ ЗАСНАВАННІ ГОРАДА ГЛУСКА

20 снежня 1522 г.

Жикгимонт божю млстю король польский великий князь Литовский руский княжа пруское жемойтский и иных.

Бил нам чолом князь Юрий Иванович Дубровицкий и поведал перед нами штож он збудовал собе у выймени своем замок у Глуску и просил в нас абыхмо ему дозволили там место садити и торг и корчмы мети... Што мы з ласки нашое на его чоломбите то вчинили иж мает там при замку его глуском место садити и торг и корчмы мети... И на то есмо ему дали сес нам лист з нашоюе печатью. Писан у Ломазе под леты божею нароженя 1522 мца декабря 20.

Хрестоматия по истории БССР. Мн., 1976. Ч. 1. С. 14.

***Приводится по тексту: «Памяць. Глускі раён». Мінск, БЕЛТА, 1999, с. 48.***

## УСПАМІНЫ ПРА ЯЎХІМА КІПЕЛЯ

Жыцьцевы шлях Яўхіма Кіпеля складаней за ўсялякія схемы. Чырвонаармеец у рэвалюцыйныя гады; у 1920-я гг. актыўны працаўнік на ніве беларушчыны у Савецкай Беларусі: у 1930-я гг.— «вораг народа», вязень сталінскіх канцлягероў: у 2-ю сусьветную вайну г. зв. калябарант, да канца жыцьця цьвёрда стоячы на антыкамуністычных, антысавецкіх пазіцыях. Дык хто ж ён на самой справе — герой, здраднік, ахвяра?..



*Яўхім Кіпель - чырвонаармеец. 1918-1920 гг.*

Нарадзіўся Яўхім Кіпель 25 сьнежня 1895 г. (па старым стылі) у вёсцы Байлюкі Бабруйскага павету Менскай губэрні (цяпер Глускі раён). Пасьля вучобы у Глускім вышэйшым пачатковым вучылішчы ен дадаткова сканчае у 1915 г. аднагадовыя пэдагагічныя курсы, каб прысьвяціць сябе настаўніцкай дзейнасьці. Але усе пляны юнака перакрэсьліла 1-я сусьветная вайна. У летку 1915 г. Кіпеля бяруць у войска і пасьля заканчэньня 2-й Кіеўскай школы прапаршчыкаў накіроўваюць у дзеючую армію на Румынскі фронт. Рэвалюцыйныя падзеі 1917 г. застаюць яго на Паўночным фронце. Нацыянальна Яўхім усьвядоміў сябе менавіта у войску, і гэта не выпадкова. Празь беларускія вайсковыя рады і камітэты у нацыянальны рух прыйшлі Сымон Рак-Міхайлоўскі, Тамаш Грыб, Язэп Мамонька, Васіль Русак, Язэп Гладкі, Мікола Пашковіч ды шмат хто іншы. Бальшавіцкая пропаганда сярод салдатаў і ніжэйшых чыноў афіцэрства паўплывала і на сьветапогляд молодого Кіпеля. Прыняўшы за чыстую монету папулісцкія абяцанкі бальшавікоў аб бясплат-



*У вёсцы Байлюкі. Злева месца, дзе стаяла хата, у якой нарадзіўся Яўхім Кіпель. 1997 г. Фота І. Кірына.*

най передачы сялянам зямлі, свободным самавызначэньні народаў і г. д., ён у 1918 под Ноўгарадам дабрахвотна ўступае у Чырвоную Армію. У 1919—1920 гг. у складзе Заходняй (беларускай) дывізіі ўдзельнічае у савецка-польской войне, у чыне паручніка камандаваў ротай, адзін час нават батальонам. З 1921 г. пасьля дэмабілізацыі прыяжджае у Менск і паступае у распараджэньне Акадэмцэнтра пры наркомасьвеце Савецкай Беларусі, якім кіраваў Усевалад Ігнатоўскі. Кіпель адразу актыўна ўключаецца у беларускую культурную працу: пасьля заканчэньня беларускіх лектарскіх курсаў плённа працуе у вайсковай сэкцыі Навукова-тэрміналягічнай камісіі, якая у 1922 была пераўтвораная у Інстытут беларускае культуры. Шмат працаваў сярод менскай белорускай моладзі, пашыраючы сярод яе нацыянальную сьвядомасьць. У 1921 — 1922 гг. ён быў старшынём гуртка беларускай моладзі, што месьціўся у памяшканьні былой «Беларускай хаткі» на Конным пляцы (цяпер 1-е тралейбуснае дэпо). Пры клюбе дзейнічалі літаратурныя, тэатральныя, музычныя і танцавальныя секцыі, якімі адпаведна кіравалі Якуб Колас, Усевалад Фальскі, Скальская і Чэслаў Родзевіч; быў заснаваны беларускі хор, узначальваць які згадзіўся Уладзімір Тэраўскі. З гуртком супрацоўнічалі Янка Купала, Язэп Лёсік, Цішка Гартны. Маладыя менчукі падтрымлівалі цесную сувязь з маладзёжнымі беларускімі арганізацыямі студэнтаў Віцебска, Магілева, Горы-Горскага земляробчага інстытута, Пятроўскай сельскагаспадарчай акадэміі у Москве, гурткамі у Бобруйску, Барысаве, Слуцку. Актыўнымі сябрамі гуртка быяі паэты Андрэй Александровіч і Алесь Дудар, драматург Яўген Рамановіч, артыст Барыс Платонаў, гісторык Тодар Забела, Адам Цераж, браты Мікола і Янка Пашковічы ды інш. Пленная дзейнасьць гуртка сядзела бяльмом на воку у партыйных і камсамольскіх ворганаў. Пасьля рэквізыцыі ўладамі памяшканьня «Беларускай хаткі» дзейнасьць гуртка спыняецца у канцы 1922 году. Подчас навучаньня Кіпеля у Беларускім Дзяржунівэрсытэце (1922—1926) ён актыўна ўдзельнічае у беларускім студэнцкім руху: зьяўляецца сябрам Усебеларускага студэнцкага аб'яднаньня БДУ, гуртка вывучэньня анархізму, Краязнаўчага таварыства БДУ ды інш. Будучы студэнтам БДУ, Кіпель увесь час падпрацоўваў настаўнікам сярэдніх школаў Менска, шмат сілаў аддаючы беларусізацыі народной асьветы. Выкладаючы беларускую мову у 2-й Менскай савецкай школе 2-й ступені (былая казённая мужчынская гімназія), ён разам зь беларускім настаўнікам Тодарам Апацёнкам увосень 1923 г. высунуў ініцыятыву об пераводзе выкладаньня у пачатковых клясах школы цалком на беларускую мову. Под ціскам мясцовых русыфікатараў, якія знайшлі падтрымку у вышэйшых інстанцыях, абодва настаўнікі мусілі перавесьціся у іншую навучальную ўстанову города.

Пасьля заканчэньня БДУ у 1926 годзе Кіпель працуе сакратаром аддзела прыроды і народной гаспадаркі Інбелкульта (з 1928—Беларускай акадэміі навук), адначасова выкладае прыродазнацтва на Менскіх 2-гадовых беларускіх педагагічных курсах, уваходзіць у рэдакцыйную раду часопіса «Наш Край», актыўна друкуецца у беларускамоўным перыядычным друку і навуковых часопісах: аўтар грамадзкапалітычных артыкулаў у газэце «Савецкая Беларусь», навукова-папулярных і тэарэтычных публікацый і рэцэнзій па біялёгіі, прыродазнаўстве і краязнаўстве у часопісах «Запіскі Беларускай акадэміі навук», «Наш край», «Полымя» ды інш. У студзені 1928 яго зацьвярджаюць асьпірантам БДУ і адначасова Белорускай акадэміі навук. Але гэта быў ужо час, калі пачала набіраць сілу кампанія супраць нацдэмаў, правых і левых «ухілістаў». У кастрычніку 1929 г. Кіпеля выключаюць з асьпірантуры «па неадпаведнасьці сваей навукавай дзейнасьці марксісцкай ідэалёгіі», і ён мусіў пайсьці зноў на настаўніцкі хлеб. Увесну 1930 г. ён яшчэ працаваў выкладчыкам на 6-месячных Менскіх беларускіх педагагічных курсах. У чэрвені 1930 г. яго арыштоўваюць па справе «Союза вызваленьня Беларусі» і паводле постановы суда у красавіку 1931 высылаюць на 5 гадоў у далёкі город Налінск Вяцкай вобласьці (цяпер Кіраўская вобласьць Расейскай Фэдэрацыі). Ссылку Кіпель адбываў разам зь вядомым навукоўцам, аўтарам падручніка «Геаграфія Эўропы» Мікалаем Азбукіным і яшчэ зусім молодым гісторыкам Міколам Улашчыкам. Подчас штомесячнай рэгістрацыі ссыльных у г. Вятцы Кіпель меў магчымасьць сустрэцца і пагаварыць зь іншымі сваімі былымі сябрамі па Менску: Уладзімірам Жылкам, Генадзем Багдановічам, Адамам Бабарэкам, Язэпам Пушчам, Уладзімерам Дубоўкам ды інш. У сьнежні 1935 Кіпеля паўторна арыштоўваюць і засуджваюць на 5 гадоў канцлягероў. Пасьля вызваленьня у сьнежні

1940 працаваў настаўнікам у школе. Хутчэй за ўсё яго чакаў чаргові арышт, але грымнула война, і Кіпеля пагналі бараніць «социалистическое отечество»: відаць, каб залатаць дзіркі на франтах у якасьці «пушачнага мяса», бальшавікам спатрэбіліся і «ворагі народа». Увесну 1942 Кіпель сьвядома перайшоў лінію фронту і у чэрвені месяцы апынуўся ужо у акупаваным немцамі Менску. 3 ліпеня 1943 працаваў у Інспэктарыяце беларускіх школ пры Генэральным камісарыяце Беларусі, зьяўляўся сябрам Менскай акруговай рады Беларускай народной самапомачы (БНС). З 1943 г. працаваў у аддзеле культуры БНС, рэдагаваў газзту «Голос вёскі». Са студзеня 1944 г. кіраўнік навуковага аддзела Беларускай цэнтральной рады (БЦР), рыхтаваў для беларускіх пачатковых школак падручнікі па заалёгіі і прыродазнаўстве. Падчас правядзеньня 27 чэрвеня 1944 г. 2-га Усебеларускага кангрэсу быў абраны яго старшынём. З лета 1944 г. у Нямеччыне, уваходзіў у Беларускі прапагандысцкі аддзел Сувязі БЦР, падрыхтаваў тут для друку кнігу ўспамінаў «Зь іхняга раю. Успаміны з жыцьця у военных канцлягерох СССР», брашуру "Што такое нацыя і нацыянальны рух». У пасьляваенны час у 1940-я гг. быў прыхільнікам узнаўленьня БЦР, ініцыятарам стварэньня Белорускай народной партыі. У 1950 г. эмігруе у Паўночную Амэрыку, дзе ўваходзіць у Беларускі Кангрэсавы камітэт Амэрыкі (БККА), быў ініцыятарам стварэньня у сьнежні 1951 г., а таксама і старшынем аб'яднаньня беларускіх вязьняў савецкіх канцлягероў. У белорускай эміграцкай прэсе апублікаваў шэраг артыкулаў з успамінамі пра грамадзка-палітычнае становішча у БССР у 1920-я гг., пра час знаходжаньня у зьняволеньні ды інш. Цалкам рукапісы яго ўспамінаў захоўваюцца у архіве Беларускага інстытута навукі і мастацтва (БІНІМ) у Ню-Ерку. Памёр Яўхім Кіпель 27 ліпеня 1969 году. 10 чэрвеня 1988 году Вярхоўным судом Беларускай ССР быў рэабілітаваны па ўсіх судовых прыгаворах 1930-х гг.

***«Спадчына» № 3, 1995***

## ЯК НАС ВУЧЫЛІ

Калі мне споўнілася сем гадоў, а майму старэйшаму брату было ўжо гадоў дзесяць, паўстала патрэба аддаць нас у школу. Школы ў нашай вёсцы Байлюкі не было. Найбліжэйшая школа была ад нас кілямэтраў 14 у мястэчку Глуск. Гэта не такая вялікая далечыня: кожную нядзелю езьдзілі зь вёскі ў мястэчка — хто дровы на продаж вазіў, хто ў царкву езьдзіў — дык дастаўляць вучням харчы было няцяжка. Але ўзьнікала пытаньне: як у расейскай школе змогуць нас вучыць? Бо-ж у вёсцы і дарослыя мала ведалі расейскую мову, дзеці-ж амаль нічога не разумелі.

Памятаю такі выпадак. Справа была ў позьнюю восень, бадай што ў Піліпаўку. Мужчыны малацілі ў гумне, воддаль ад іншых будынкаў, у хаце-ж засталіся толькі адныя жанчыны ды дзеці. Гэтым часам у вёску прыехалі нейкія начальнікі, не валасныя, а здалёку. Яны зайшлі да нас у хату і пачалі пытацца:

— Как ваша фамилия? Ваше имущественное положение?

У хаце былі тры жанчыны і ніводная зь іх не разумела, чаго ад іх хочуць. Паслалі мяне ў гумно па дзядзьку, якога ў нас уважалі за знаўцу расейскае мовы, бо тры гады адслужыў у арміі. Ён прыйшоў, выслухаў начальства і з апломбам сказаў:

— Вось дурныя бабы! Яны-ж пытаюцца, як вашае прозьвішча і якая ў вас маемасьць!

Жанчыны неяк вінавата схамянуліся ды нешта прагаварылі на сваё апраўданьне.

Падобныя выпадкі здараліся ў вёсцы часьцей і часьцей, і пытаньне з мовай стаяла вельмі востра. Хлопцаў такога веку, як мы з братам, у вёсцы было яшчэ трынаццаць, і бацькі адчувалі, што дзяцей трэба неяк вучыць. Аднак-жа як вучыць, калі ніхто не разумее мовы? І таму на вясковай нарадзе нашыя ды іншыя бацькі пастанавілі, што хлапцоў трэба трошкі «абламаць» дома, а калі яны крыху будуць разумець расейскую мову, адвезьці іх у школу ў Глуск.

Тады якраз павярталіся дахаты салдаты, што былі на японскай вайне. Яны ў адзін голас казалі, што непісьменнаму чалавеку на вайсковай службе вельмі цяжка. І гэта яшчэ больш пераконвала, што дзяцей трэба вучыць. Нашая вёска дзеля гэтага наняла настаўніка. Быў гэта малады хлапец Алімп Шулякоўскі са шляхоцкага засьценку Лучкі, што недалёка ад Глуску.

Навука пачалася з навучаньня рэлігіі. Усе мы былі праваслаўныя, таму нас вучылі па-праваслаўнаму хрысьціцца і праваслаўныя малітвы. Разам мы пачалі вучыцца літараў ды чытаць цэлыя словы. Пры вучэньні словаў сустракаліся бадай неперaадольныя цяжкасьці. Прыкладам, нам трапілася слова ушат. Настаўнік нам казаў, што ушат — гэта цэбар, і гэта трэба запомніць. Далей настаўнік казаў, што лошадь — гэта конь, весы — вага, карман — кішэня, портной — кравец, сапожник — шавец, кузнец — каваль і гэтак далей.

Для малых гэта было вельмі цяжка, бо незнаёмых словаў было шмат, а запамінаць незьвязаныя словы для дзяцей нялёгкая справа. Калі хто з нас выяўляў вялікую цікавасьць ды дапытваўся, чаму, прыкладам, цэбар стаўся ушатам, дык зарабляў лінейкай па далоні — на гэтым і пытаньні, і тлумачэньні спыняліся ды ўсё ставала «зразумелым».

Праз пару месяцаў навучаньня настаўнік прывёз з Глуску нейкі падручнік, што ўжываўся ў народнай школе. З падручнікам справа зрабілася яшчэ цяжэйшай. Мы цяпер мусілі завучваць цэлыя сказы, і гэта была сапраўдная мука, бо



*Вёска Байлюкі. 1997 г. Фота І. Кірына.*

мы нічога не разумелі. Прыкладам, в поле пашут на быках азначала ў полі аруць валамі, плотник заколотил гвоздь — цясьляр забіў цьвік.

Часта здараліся выпадкі, што і настаўнік не разумеў тэксту. Прыпамінаю такі сказ: Мать разожгла огонь на шестке. Настаўнік тлумачыў сказ гэтак: разжигать значыць распальваць, огонь — гэта агонь, але пры чым тут шост? У такіх выпадках нас выручаў дзядзька, бо школа бадай увесь час была ў нашай хаце, — ён ведаў, што шесток — гэта прыпечак. Часта дзядзька нам тлумачыў і іншыя словы, як костер — вогнішча, длина — даўжыня, прыгнуть — скочыць і гэтак далей.

І гэтак нашая пачатковая навука цягнулася бадай цэлую зіму. Пад канец зімы настаўнік пачаў нас вучыць вершы, як ён нам казаў — сьцішкі. Вершыкі нам даваліся яшчэ цяжэй. Прыкладам, мы напамяць завучылі верш аб тым, як дзедка дастаў ліст ад свайго ўнука з гораду, але сам прачытаць яго ня мог і паслаў пасланца ў другі канец вёскі па хлопчыка, які ўмеў чытаць. Верш закончваўся гэткімі радкамі:

По дороге мальчик
Вдоль села идет.
Дед кричит: — Мишуха!
На, прочти-ка вот!

І вось над гэтай страфой мы даўгавата затрымаліся, бо зусім не разумелі такіх словаў як мальчик, вдоль, Мишуха, кавот. Глянуўшы цяпер, здаецца гэта быццам-бы і проста, але для дзяцей, якія ніколі ня чулі расейскае мовы, гэта складала вялікую цяжкасьць. Апрача зразуменьня словаў, сказаў і сэнсу ўсяго, што мы вучыліся ў першую зіму, велізарнай цяжкасьцю і перашкодай было і вымаўленьне, за якое ізноў ня раз даводзілася даставаць лінейкай.

Пад вясну, у велікодны пост, прыехаў да нас у вёску сьвятар, якога ў нас называлі бацюшка Сямёнаў. Ён праверыў, ці ведаем мы малітвы, папытаўся, як мы хрысьцімся, чаму складаем тры пальцы пры хрышчэньні. Усё гэта за зіму мы навучыліся. Бацюшка нас усіх пахваліў і сказаў, каб мы рыхтаваліся да споведзі.

Прыблізна за месяц да таго, як ісьці ў царкву спавядацца, прыехаў у Байлюкі брат нашага настаўніка Сямён Шулякоўскі, які скончыў настаўніцкую сэмінарыю ды быў недзе настаўнікам. Ён арганізаваў з нас хор і навучыў сьпяваць колькі царкоўных песьняў.

Недалёка ад нашае вёскі, у сяле Клятном, была старэнькая царква, у якую два разы на год прыяжджаў сьвятар спавядаць сялян. У тую царкву і павёў нас настаўнік да споведзі. У часе абедні мы сьпявалі, і гэта зрабіла вялікае ўражаньне. «Пабачце, вунь што за зіму навучыліся! Аж у царкве могуць сьпяваць!» — гаварылі сяляне. Таму што мы нешта навучыліся, за прыкладам нашай і суседнія вёскі хутка адчынілі школы граматы ды таксама на свой кошт.

На другую зіму нас вучыў ужо іншы настаўнік. Перш-наперш ён нам загадаў купіць у Глуску кніжку «Северо-Западный край». З гэтай кніжкай прыйшлі яшчэ большыя клопаты — мы зусім не разумелі, бо зьместам кніжка была для другога году, цяжкая, а нашая веда расейскае мовы бадай ніякая. Разам з чытаньнем кніжкі, мы вучыліся табліцы множаньня, усе чатыры арытмэтычныя дзеяньні, і пад канец зімы сталі разьвязваць некаторыя задачкі па задачніку Яўтушэўскага.

На трэці год нас павезьлі ў Глуск — у народную чатырохгадовую вучэльню. Будынак школы зьмяшчаўся на валасным двары, у самым цэнтры мястэчка. Загадчыцай была настаўніца Надзея Аляксандраўна Савіч, а памочніцай ейная сястра Кляўдыя. Школа ўтрымвалася на валасныя грошы, ці бо на кошт сялян, і таму дзеці сялян прымаліся ў першую чаргу, і толькі на вольныя месцы прымалі дзяцей мяшчан і шляхты. Пры школе быў інтэрнат, але ён быў невялікі, і таму дзяцей мяшчан і шляхты ў інтэрнат не прымалі. Яны мусілі жыць на прыватных кватэрах. Яўрэйскіх дзяцей у школу зусім ня бралі.

Рэлігіі дзеці былі праваслаўнае або каталіцкае. Праваслаўных было шмат больш. Агулам-жа ў школе было каля дзевяцьдзесяцёх вучняў. Для дзьвюх настаўніц гэта была даволі вялікая нагрузка. Лекцыі адбываліся ў адным вялікім пакоі, і кожная настаўніца вяла два аддзелы.

Нас, хлопцаў з Байлюкоў, пасадзілі ў другі аддзел. Вучыцца тут было шмат цяжэй. Настаўніцы гаварылі з намі пераважна па-расейску. Напачатку мы іх амаль не разумелі. Яны гэта бачылі і заўсёды тлумачылі нам па-нашаму, ды ўсё-ж настойліва вымагалі, каб мы зь імі гаварылі, як яны казалі, правільно. Нам тады не казалі, што гэтае слова беларускае, а тое расейскае. Нам казалі, што гэтае слова неправільное і таму яго ня трэба ўжываць у гаворцы.

Практычна гэта давалася цяжка і азначала, што нам забаранялася карыстацца найбольш ужыванымі словамі: хіба, як, трэба, бачыў, чуў і падобнымі, ці, інакш кажучы, забаранялася ўжываць засвоены дзяцьмі лексыкон, а заміж гэтага вымагалася завучваць новы — разве, как, нужно, видел, слышал.

У вучняў адразу зарадзілася апазыцыя да такіх словаў і зваротаў. Часам у клясе мы між сабой проста не гаварылі, а вельмі часта такія словы і звароты знарок перайначвалі, кпілі. Гэтак, заміж нужно мы сумысьля казалі нужнік. Калі настаўніца гэта пасьпела пачуць, дык ставіла вучня на калені, а часам страшыла, што накруціць вушы. Аднак, не зважаючы на пагрозы, мы адчувалі, што настаўніцы былі нам спагадлівыя ды часта ўдавалі, што ня чуюць, як мы міжсобку размаўляем.

Першы год нашае навукі ў Глуску да нас даволі часта прыяжджаў з Бабруйску інспэктар народных школаў Чарнэцкі. Гэта быў мужчына сярэдняга веку, з чорнай барадой. Ён з намі часта і даволі доўга гутарыў, ніколі не крычэў, калі мы не разумелі ягоных пытаньняў, стараўся нам вытлумачыць па-нашаму ды ўсё распытваў нас і пра школу, і пра нашае жыцьцё, і пра тое, як мы гутарым у інтэрнаце.

Аднойчы інспэктар Чарнэцкі прыехаў да нас зь нейкім іншым начальнікам. У гэтага другога была таксама невялікая бародка. Апрануты ён быў у чорнае паліто з бліскучымі гузікамі і быў надта ветлівы да нас. У клясе ён пабыў гадзіны дзьве, паслухаў, як мы адказвалі на пытаньні, ды і паехаў. Перад ад’ездам ён падараваў нам цэлы мяшок цукерак. Калі ён ад’ехаў, настаўніца сказала, што гэта быў предводитель дворянства (маршалак) на Бабруйскі павет ды што ён найвышэйшы начальнік у павеце. Як прыпамінаю, ягоныя наведзіны школы былі ў позьнюю восень. Пасьля, аж да велікоднага посту, да нас ніхто не прыяжджаў.

Але перад постам сталася нешта надзвычайнае. Аднае раніцы, калі мы ўсталі і пайшлі мыцца — уставалі мы дакладна а 7-й гадзіне — то знайшлі, што ўмывальнікі былі налітыя цёплай вадой і ўсё было прыбрана. Малодшая настаўніца была ўжо ў інтэрнаце і загадвала, каб мы памылі і рукі, і шыі, і галовы, а пасьля сьнеданьня каб абавязкава папаласкалі рот. Загадала яна ўсім і пачысьціць боты. Мы ўсе мелі боты, хоць у кожнага з нас былі і лапці, аднак мы ў школе надзявалі іх рэдка. Гэтая падрыхтоўка да нечага зрабіла на нас вялікае ўражаньне, і мы зь цікавасьцю чакалі, што будзе далей.

А 9-й гадзіне мы, як звычайна, прыйшлі ў клясу. Праз хвіліну-другую ў клясу ўвайшла старэйшая настаўніца ды сказала, што ў нашую школу прыехаў попечитель (апякун) Віленскае навучальнае акругі. Настаўніца вытлума-

чыла, што гэта найвышэйшы начальнік над усімі школамі ў акрузе. Расказаўшы яшчэ ў колькіх словах пра Вільню, яна нас папярэдзіла, каб мы не хвалявалі-ся, каб адказвалі на пытаньні, як умеем, і каб не саромеліся. Настаўніца яшчэ дадала, што апякун будзе не адзін, а зь інспэктарам Чарнэцкім. Пасьля гэтага яна выйшла з клясы, а хвілінаў празь пяць у клясу ўвайшоў апякун разам зь інспэктарам.

Усе вучні ўсталі — гэткі быў звычай, — а старэйшы вучань Зьміцер Жышкевіч (гадоў пятнаццаць пазьней яго расстралялі палякі) прачытаў малітву. Апякун загадаў вучням сесьці і прайшоў па клясе. Быў ён не стары, з шырокім тварам і русаватай барадой. Апрануты быў у чорны даўгі сурдут, што на нас зрабіла ўражаньне вялікае ўрачыстасьці. Ён ветліва ўсьміхнуўся і пачаў да нас гутарыць. Гутарыў ён дзіўна. Першае, што ўрэзалася ў вушы, гэта тое, што пасьля кожнага слова ён вымаўляў ну-с і да-с, а гэткае гутаркі мы ніколі ў Глуску ня чулі. Зь ягоных першых пытаньняў я нічога не зразумеў. Паўстала нейкая нязручная напружанасьць, і каб яе абарваць, настаўніцы сказалі, што распачынаюцца заняткі.

Малодшая настаўніца павяла заняткі зь першым аддзелам, а апякун, інспэктар і старэйшая настаўніца пачалі гутаркі з другім годам навучаньня. Гадом трэцяму і чацьвертаму далі самастойныя працы. Хоць вучні і пачалі пісаць свае працы, аднак незаўважна прыглядаліся, што рабіў апякун. Сядзеў ён за сталом, настаўніца чытала вучням апавяданьне аб тым, як маленькая дзяўчынка Дар'я засталася круглаю сіратой. Ейны дзедка захацеў узяць сіротку да сябе, а бабка была супраць гэтага. Бабка казала: «Калі мы возьмем Дар'ю да сябе, дык нам ня будзе за што і солі купіць, каб пахлёбку пасаліць». Дзедка-ж на гэта адказаў, што «они ее, похлебку, несоленую съедят».

Калі настаўніца прачытала апавяданьне, апякун пачаў задаваць вучням пытаньні. Першае было:

— Ці зразумелі апавяданьне?

Усе маўчалі.

— Ну-с, — сказаў апякун, — посмотрим!

Другое пытаньне вучні зразумелі больш-менш гэтак: «Навошта дзедка і бабка хацелі ўзяць да сябе ўнучку Дар'ю?» Бадай аднагалосна вучні адказалі:

— Каб яе пахлёбку есьці несалёную.

Пасьля такога адказу твар апекуна зрабіўся напружаным. Ён папрасіў усіх падумаць і адказаць яшчэ раз. Тое самае паўтарылася ізноў:

— Унучку Дар'юшку дзед і бабка бралі да сябе, каб яе пахлёбку есьці несалёную.

Тут апякун падняўся з крэсла і, вымаўляючы словы паасобку, спытаўся, чаму вучні так думаюць, што дзед і бабка будуць зьядаць унуччыну пахлёбку. Адзін з вучняў адказаў:

— Бо-ж так настаўніца сказала: ее похлебку.

Вытварылася непрыемнае становішча, і настаўніца ўмяшалася ў размову. Яна растлумачыла, што пад словамі ее похлебку трэба разумець гэтую пахлёбку. Аднак дзеці гэтага ніяк не маглі зразумець, чаму трэба прыбаўляць слова гэтую. Каб загладзіць інцыдэнт, апякун нешта сказаў і ўсьміхнуўся, што вучнямі было ўспрынята як жарт, і атмасфэра распружылася.

Далей апякун пачаў задаваць пытаньні пра надвор'е, лес, поле, жніво ды іншае. Вучні падбадзёрыліся — яны больш разумелі, але, адказваючы сваімі словамі, устаўлялі знаёмыя сабе словы: як, добра, далёка, хмарыцца ды іншыя. Усім кінулася ў вочы, што апякун нешта ціхенька пытаўся ў настаўніцы ды запісваў у таўсты сшытак. Час ад часу ён перапытваў такія словы, як кволы, кіякі. Але вучні на гэта асаблівае ўвагі не звярачалі.

На другой лекцыі мы пачалі пісаць дыктоўку на правіла пісаньня літары һ (яць). Спачатку кожны вучань пісаў сказ у свой сшытак, потым адзін з вучняў запісваў гэты сказ на дошцы, і тады цэлая кляса разьбірала напісанае. Сустракаліся сказы, якіх вучні зусім не разумелі, прыкладам: Ржаной хлебушко — калачу дедушка. Калі апякун запытаўся вучня, што гэта значыць, дык той не міргнуўшы вокам адказаў:

— Б'ю хлеб, стукаю аб хлеб.

На такі адказ апякун, відаць, не спадзяваўся, ён захваляваўся і пачаў распытваць:

— Як-жа ты будзеш біць хлеб і навошта будзеш гэта рабіць?

Вучань-жа трымаўся далей свайго ды казаў:

— А так напісана, і я помню, як настаўніца казала, што забіць цьвік у сьцяну па-правільнаму будзе заколотить гвоздь.

Ізноў паўстала зьбянтэжанасьць, і настаўніца пасьпяшалася з новым сказам. Сказ быў такі: Прислуга подавала обед господам. Вучань, які запісваў сказ на дошку, ў слове господа зрабіў націск на першае о. Апякун асьцярожна перапытаў вучня, а той бойка паўтарыў:

— Господам, — ды выттлумачыў: — Гэта значыць багом.

Апекуна гэта вывела з раўнавагі, ён пачаў шпарка хадзіць па клясе.

Далейшае пытаньне пераканала апекуна, што вучань не разумее і слова прислуга. Апякун папрасіў настаўніцу, каб яна растлумачыла вучням сказ «папростаму». Настаўніца неяк дакорліва, але з пэўнасьцю сказала:

— Ну, вы гэтага не разумееце! Папростаму гэта будзе так: Чалядка падавала абед паном.

Гэты пераклад «па-простаму» вельмі зьдзівіў апекуна, і ён папрасіў яго паўтарыць, перапытаў паасобку кожнае слова, запісаў сабе ў сшытак ды перашапнуўся з настаўніцай.

Назаўтра апякун прыйшоў крыху пазьней. На другой лекцыі мы вучыліся назоваў жывёл, прыладаў, будоўляў. У клясу прынеслі табліцы, найбольш было з малюнкамі жывёлаў. Апякун пачаў сам пытацца, як завецца кожная жывёліна. Ён вельмі зьдзівіўся, калі мы растлумачылі яму, што па-нашаму сабака — назоў мужчынскага роду ды што мы ў вёсцы не ўжываем слова лошадь, а толькі конь.

Апякун, каб увайсьці з намі ў бліжэйшы кантакт і больш пазнаць кожнага вучня, сказаў, што будзе выклікаць нас па чарзе, паказваючы пальцам, і як ён выкліча, мы павінны назваць сваё прозьвішча. Першага выклікаў вучня, які сядзеў на першай лаўцы. Той устаў і назваў сваё прозьвішча:

— Сапега.

— Ты паляк? — запытаўся апякун.

— Не, я не паляк, — адказаў вучань.

— А хто ты? — пытаўся ізноў апякун.

— Я з-пад Глуску, — адказаў вучань.

І апякун на гэтым пэрсанальныя пытаньні скончыў.

Наступным пытаньнем Сапегу было:

— Як завуць гэтую жывёліну.

Апякун паказаў на табліцу — малюнак зубра.

— Гэта бой зуброў, — адказаў Сапега.

Крыху хвалюючыся, апякун пытаўся далей:

— Чаму ты называеш гэты малюнак «Бой зуброў»?

Сапега-ж, ані не зьбянтэжыўшыся, адказаў:

— А ў кніжцы напісана «Бой зуброў». Мы летась вучыліся з кніжкі «Северо-Западный край», дык там так і напісана: «Бой зуброў».

Апякун зірнуў на настаўніцу, а тая яму адказала:

— У маёй школе гэты падручнік не ўжываўся, але ўжывалі яго ў вясковых школах граматы.

Яна дастала з шафы «Северо-За-

падный край» і знайшла там апісаньне Белавескай пушчы, там-жа быў і малюнак: два зубры бадуцца, а пад малюнкам напісана «Бой зубров». Вучні вясковай школы зразумелі, што слова бой належыць да назову зубра і што гэта будзе правільно.

Апякун паглядзеў на малюнак, абвёў паглядам нас, запісаў нешта ў сшытак, усьміхнуўся і з дапамогай настаўніцы запытаўся ў вучняў:

— Як будзе па-вашаму, калі быкі адзін другога ілбамі бадуць?

Амаль усе хорам адказалі:

— У нас кажуць, што быкі бараюцца.

— Ну, а калі адзін бык адалеў другога, як у вас кажуць тады?

— У нас тады кажуць, — працягвалі мы, — збораў або перамог.

— Ну, вось, дзеці, — спакойна працягваў апякун, — па-правільнаму гэта будзе победить, а той бык, каторы перамог, называецца победитель!

Пасьля гэтае лекцыі быў перапынак, і на перапынку мы міжсобку абмяркоўвалі новае слова победить ды дзівіліся, што як гэта так, нават і апякун не разумее па-нашаму.

На наступную лекцыю апякун прыйшоў разам зь інспэктарам і настаўніцай. Ён прынёс кніжку і даў яе аднаму вучню, каб той прачытаў вершык, а пасьля расказаў яго сваімі словамі. Усе вучні мусілі ўважліва слухаць чытаньне і пасьля памагаць пераказваць. Памятаю, што апякун даў кніжку хлопцу зь сяла Машнічы, што недалёка ад Байлюкоў. Прозьвішча хлопца было Хадаковіч. Хадаковіч быў кемкі і спрытны вучань, і ён пачаў чытаць:

Уж небо осенью дышало,
Уж реже солнышко блистало,
Короче становился день,
Лесов таинственная сень
С печальным шумом обнажалась...

Спачатку Хадаковіч спатыкаўся ў чытаньні. Апякун папрасіў яго прачытаць яшчэ раз, і другі раз хлопец прачытаў шмат лепш, не запінаючыся. Тады апякун запытаўся ў вучняў, ці зразумелі яны. Усе дружна, а разам з намі і Хадаковіч, адказалі, што зразумелі.

Апякун сказаў Хадаковічу пераказаць вершык сваімі словамі. Хадаковіч пачырванеў, закашляўся і стаіць. Тады апякун і настаўніца пачалі яму памагаць:

— Ну, што-ж, увосень сонца мацней грэе ці слабей?

— Слабей.

— Ну, а чаго ўвосень на дрэвах і па цэлым лесе становіцца менш?

Хадаковіч крыху падумаў, пасьляж схамянуўся і бойка адказаў:

— Вужоў становіцца менш.

Апякун, інспэктар і настаўніца пераглянуліся — недарэчнасьць адказу, відаць, моцна ўразіла ўсіх траіх. Апякун падышоў бліжэй да вучня і ўсхваляваным голасам запытаўся:

— Скажы, Хадаковіч, чаму табе ў галаву прыйшлі вужы?

Хадаковіч зьбянтэжыўся і таксама ўсхвалявана пачаў гаварыць:

— А як-жа, а як-жа? Вось-жа тут напісана: уж, уж! І ў нас у «Добрых семенах» напісана: уж и гадюка.

Пры гэтым ён спрытна дастаў з-пад лаўкі падручнік «Добрые семена» і ў другой частцы падручніка хуценька знайшоў малюнак з подпісам «Уж и гадюка».

На твары Хадаковіча зьявілася пераможная ўсьмешка. Аднак апякун ад гэтага дыялёгу адразу спахмурнеў і неяк сумна загадаў Хадаковічу сесьці ды адазваў настаўніцу набок. Гутарыў апякун з настаўніцай хвілінаў дзесяць і нешта пісаў у свой сшытак. Пасьля яны падышлі да вучняў і апякун голасна спытаўся ў настаўніцы:

— А што праходзілі зь імі з граматыкі? Ці ведаюць яны часьціны мовы?

Настаўніца адказала, што з граматыкі яна патрапіла растлумачыць нам толькі злучнікі і што граматыка нам пакуль што зусім незразумелая, але яна пляне прайсьці асновы граматыкі ў наступным годзе.

— Так-с, так-с, — прагаварыў апякун, нешта ізноў запісаў у свой сшытак, а потым сказаў настаўніцы, каб яна растлумачыла па-нашаму значаньне верша і пастаралася, каб мы зразумелі кожнае слова.

Ад нас апякун пайшоў да вучняў першага году навучаньня. Зь імі ён прабыў няпоўную гадзіну. У гэтым аддзеле былі сямігадовыя дзеці — першы год зь вёскі ў места. Расейскае мовы яны зусім не разумелі, і настаўніца кожнае слова з расейскае мовы перакладала на беларускую, а пасьля тлумачыла пабеларуску і цэлы сказ. Ня толькі апекуну, але і нам, крыху старэйшым вучням, было відавочна, як цяжка гэтым малым давалася разуменьне чужое мовы ў школе. Бадай кожнага вечара і на перапынках малыя ў нас пыталіся, што такое топор, рожь, глаза, полотенце, кушать, сапоги ды іншае. Далёка не заўсёды і мы маглі дапамагчы меншым у гэтай справе.

Асабліва дрэнна было з вымаўленьнем. Ніхто ні з нас, вучняў, ні з дарослых, якія прыходзілі да нас, вымаўленьня расейскага ня ведаў. На лекцыях-жа на працягу пяцідзесяцёх хвілінаў трыццаць пяць трацілі на тое, каб вучні нешта зразумелі і правільна вымаўлялі па-расейску. У дадатак дзевяцьдзесят працэнтаў зьместу падручніка было пабудавана на расейскім матар'яле: апісаньне Расеі, звычаяў, расейскай літаратуры. Усё гэта выраблялa ў нас неахвоту да школы, і шмат хто школу кідаў.

Як толькі апякун выйшаў, нас адпусьцілі на доўгі перапынак. Пагода тады была добрая, і мы пабеглі на двор. Як звычайна, мы на двары дурэлі, бегалі. Дурэючы, я падкраўся да аднаго хлопца, па прозьвішчы Каблаш, і прычапіўся да яго ззаду на шыю. Рабіў я гэта і раней, і тады Каблаш цягаў мяне па двары. Аднак гэтым разам ён, відаць, быў не ў гуморы і добра грымнуў мяне на зямлю, крыкнуўшы:

— Адчапіся ад мяне, атрута!

Вокны ў будынку былі прачыненыя, і крык пачуў апякун.

Ён зрабіў нам знак рукой, каб мы падышлі да акна. Каблаш моцна пачырванеў і спалохаўся, аднак мы падышлі — ён першы, я за ім.

— Што такое атрута? — запытаўся апякун у Каблаша.

Каблаш маўчаў.

— Ну, скажы ты, — зьвярнуўся апякун да мяне.

— Атрутай прусакоў труцяць, — адказаў я.

— А чаму прусакоў? — спытаўся, падышоўшы да апекуна, інспэктар Чарнэцкі.

— А так нашая бабка казала, — адказаў я.

Чарнэцкі-ж дапытваўся:

— Ану, паўтары, як яна казала!

— А яна казала, калі тата зь дзядзькамі ехаў у Глуск на рынак: «Хлопцы, купіце атруты прусакоў патруціць».

Тады інспэктар спытаўся мяне, ці я ведаю, як будзе прусак і атрута не панашаму. Я ня ведаў. Апякун на гэта ўсьміхнуўся ды сказаў нам, каб мы ішлі гуляць.

На трэці дзень апякун пазнаёміўся з чацьвертым годам навучаньня. У гэтым аддзеле былі хлопцы па гадоў адзінаццаць-дванаццаць, аднак і яны парасейску яшчэ разумелі вельмі слаба. Як толькі апякун пачаў распытваць вучняў гэтага году, уся школа прыслухоўвалася. Апякун пачаў правяраць кожнага вучня, ці ведае ён верш паэта Нікіціна «Русь». Гэты верш быў важны: ужо ад другога году навучаньня мы знаі, што бязь веды гэтага верша нікога не выпускалі са школы. Верш пачынаўся так:

Под большим шатром голубых небес
Вижу — даль степей зеленеется.

Верш гэты даўгі. Адзін вучань казаў

адну страфу, другі працягваў, і гэтак далей. Чарга дайшла да вучня Хвядоса Ляпкі. Той устаў, назваў сваё прозьвішча і пачаў дэклямаваць:

И во всех концах света белого
Про тебя идет слава горькая...

Апякун адразу стрымаў хлапца ды папрасіў паўтарыць. Хвядос, ані не зьбянтэжыўшыся, паўтарыў тое самае. Апякун проста ўскіпеў — тут-жа спыніў вучня і запытаўся, што значыць слова горькая. Хвядос на пытаньне нічога не адказаў і стаяў моўчкі. Тады апякун спытаўся другога вучня, Грыпінскага, ці той ведае слова горькая, на што Грыпінскі адказаў, што гэта значыць нясмашна, горка. У клясе наступіла цішыня.

Шмат хто з нас ведаў, што ў вершы стаялі словы слава громкая, аднак усе сядзелі ціха, уткнуўшы твары ў лаўкі. Праўда, апякун хутка сябе апанаваў, прайшоўся раз-два ўзад і ўперад ды зьвярнуўся да цэлае клясы з пытаньнем, хто разумее правільно гэты верш. Адзін з вучняў чацьвертае клясы адразу вельмі высока падняў руку, і відаць было, што хацеў зьвярнуць на сябе ўвагу. Апякун паклікаў яго да дошкі. На пытаньне, як ягонае прозьвішча, хлопец адказаў: «Колесников» і без запытаньня пачаў тлумачыць, што ў вершы стаіць слова громкая, а гэта значыць славная, далекослышная. Апекуна гэта ўразіла, і ён запытаўся хлопца, адкуль той. Калесьнікаў адказаў, што ён не мясцовы, ён рускі з Тульскае губэрні, ягоны бацька па прафэсіі канавал і вясной ходзіць па сёлах, а зімой іхняя сям'я прадае абразы на рынку. Падчас гутаркі з Калесьнікавым апякун нешта запісваў у кніжку, пасьля ён выйшаў з пакоя. Мы думалі, што ў школу ён больш ня вернецца. Аднак ён затрымаўся.

Па абедзе апякун захацеў паслухаць хор. Кіраўніком хору была старэйшая настаўніца, і мы прапяялі пару царкоўных і колькі расейскіх сьвецкіх песьняў. Аднак апякун захацеў паслухаць нашыя песьні, тыя, якія мы сьпявалі самі ў інтэрнаце. Пра гэта яму расказала настаўніца. Прасьпявалі мы «Чаму-ж мне ня пець» ды «Служыў я ў пана ды першае лета заслужыў я ў пана сьвіначку за гэта».

Тады апякун папрасіў нас засьпяваць нешта сумнае. А сумныя песьні мы сьпявалі найбольш. Хлапец Зелянкоў зь сяла Баянава пачаў запяваць:

Зялёны дубочак на яр пахіліўся,
Малады, ты, хлопча, чаго зажурыўся?

А мы ўдала падхоплівалі. Калі мы скончылі песьню, апякун доўга сядзеў моўчкі, пасьля пахваліў нас і пайшоў з клясы. Больш у школу ён не заходзіў, але мы яго яшчэ бачылі на валасным двары дзень ці два.

Нехта нам сказаў, што апякун хоча паехаць пад сяло Балашэвічы, у маёнтак да памешчыка Коршака. Мы ведалі, што дачка Коршака вучылася ў Вільні і часта, прыяжджаючы дахаты, дапамагала нашым настаўніцам у школе. І як цяпер, стаіць яна ў памяці. У нашых вачох яна была іншая, яна заўсёды гутарыла па-нашаму. Мы прыпушчалі, што апякун быў знаёмы зь ёю і хацеў Коршакаў адведаць.

Старшыня воласьці Васіль Клімовіч, селянін сяла Рылавічы, узяўся адвезьці апекуна да Коршакаў, аднак не на валасным кані, а на сваім. Мы якраз гулялі на валасным двары, калі Васіль Клімовіч запрагаў каня, каб адвезьці апекуна і інспэктара Чарнэцкага да Коршакаў, ды казаў гэтак:

— Мой лошадзь самы лепшы ў воласьці і як плюнуць давязе вас да маёнтку.

Валасны сторaж Амяльян дапамагаў старшыні, і хутка яны ўсе ад'ехалі.

Больш мы апекуна ніколі ня бачылі. Аднак тыдняў праз пару пасьля гэтага старшынёў хлопец пад сакрэтам нам казаў, што ён падслухаў, як гаварыў зь некім ягоны бацька: нібыта нас, дзяцей, у школе пачнуць вучыць па-нашаму, як ён тады казаў, па-беларуску. Мы, праўда, добра зразумелі, што значыць па-нашаму, аднак мы зусім не ўяўлялі, што такое па-беларуску, бо назоў Беларусь нам быў тады невядомы.

Там, дзе я рос, у Бабруйшчыне, тады яшчэ быў папулярны назоў Літва, а мы былі ліцьвіны. Было і ці мала тых, хто памятаў, што і край называўся Літвой. Было яшчэ таксама шмат сьведкаў паўстаньня 1863—1864 гадоў. Мой дзед па бацьку быў у паўстаньні, ды ў Машнічах, Слаўкавічах, Байлюкох ды іншых суседніх вёсках і сёлах яшчэ былі жывымі сьведкі ды ўдзельнікі паўстаньня. «Мы — літва», — казаў мне заўсёды мой дзед. Дый іншыя дзяды нам, дзецям, заўсёды казалі, што тут заўсёды была Літва.

Дарэчы, у нашай мясцовасьці ў паўстаньні 1863—1864 гадоў асабліва вызначыўся малады Быкоўскі, сын старога ў нас роду шляхты. Ён быў багаты, меў велізарныя маёнткі — Веснава, Машнічы і Баянава. Казалі нам дзяды, што ён надта любіў Літву і моцна біўся з царскім войскам. Памяць пра Літву перахоўвалі ня толькі нашыя дзяды ды паны, як Быкоўскі, але і маладзейшыя людзі, і гэтыя ўспаміны перадавалі нам.

Пасьля ад'езду апекуна заняткі пайшлі па-ранейшаму. Праз год я скончыў народную школу ў Глуску і пайшоў вучыцца далей. З трох хлопцаў у сям'і мяне аднаго бацька, на намаганьні старэйшага брата Мікіты, пастанавіў вучыць. Наведаць школу ў Глуску мне больш не давялося.

Далей прыйшлі бурныя гады: юнкерская школа ў Кіеве, фронт, спачатку ў Румыніі, пасьля Фінляндыя, Масква і Заходняя дывізія Чырвонае Арміі, горад Смаленск і ўрэшце Менск. Як і шмат іншых чырвонаармейцаў, я пасьля заняцьця Менску Чырвонай Арміяй у ліпені 1920 году ўключыўся ў грамадзкую працу ды пайшоў вучыцца.

Аднойчы я ішоў на свае заняткі і амаль лоб у лоб сустрэўся з маёй настаўніцай з глускае школы. Яна моцна пастарэла і, пэўна ж, мяне не пазнала. Я прывітаўся, але настаўніца спалохана адхінулася. Тады я сказаў, што я Яўхім Кіпель з Байлюкоў. Яна вельмі ўсьцешылася ды пачала казаць, як я зьмяніўся і як форма мяняе чалавека. Адразу запыталася, ці я вучыўся далей ды што раблю цяпер. Даведаўшыся, што цяпер я на вайсковай службе ў Менску, яна запрасіла мяне ў госьці. На той дзень я адмовіўся, аднак у першую-ж суботу паехаў да яе.

Жыцьцё ў Менску тады было нялёгкае, не ставала харчоў. Камандзерскаму складу паёк звычайна давалі на цэлы месяц, і ў тую суботу якраз быў дзень выдачы пайка. Я ўзяў з сабой пайковы цукар — прыблізна тры кілі, колькі фунтаў селядцоў, пару кіляў хлеба, крыху гарбаты ды пайшоў да свае настаўніцы ў госьці.

Гэта была вельмі цёплая сустрэча. Яна вельмі ўсьцешылася з цукру ды гарбаты, узяла колькі селядцоў, хлеб у яе быў. Колькі гадзін яна расказвала, што здарылася за гэтыя гады на Глушчыне, дзе засталіся мае аднаклясьнікі. Тады я даведаўся, што шмат маіх сяброў было расстраляна палякамі. Наагул шмат успаміналі пра ваколіцы і людзей майго маленства.

У часе нашых гутарак мне прыпомніліся наведзіны нашае школы ў Глуску апекуном Віленскае акругі, і я запытаўся настаўніцу, чаму тады да нас ён прыяжджаў. І вось што яна мне расказала:

— Апякун прыехаў да нас у школу часткова зь ініцыятывы маёй і інспэктара Чарнэцкага. Мы з Чарнэцкім хацелі паспрабаваць перайсьці ў навучаньні дзяцей на беларускую мову. Аднак інспэктар сказаў, што рабіць гэта трэба афіцыйна. Вы сабе і не ўяўляеце, як нам было цяжка вас вучыць. Папрыходзілі вы ўсе з глухіх вёсак і ня толькі не разумелі мовы, але наагул ня ведалі, як жыве горад. Інспэктар Чарнэцкі гэта добра разумеў і бачыў. І ён паведаміў аб гэ-

тым павятовага маршалка. У сваім дакладзе Чарнэцкі казаў, што гэтак дзяцей вучыць няможна — яны нічога не разумеюць. Маршалак, пабыўшы ў нас у школе таксама пераканаўся ў гэтым і падтрымаў нашае дамаганьне перад губэрнатарам і перад школьным апекуном у Вільні. На просьбу губэрнатара апякун школьнае акругі і паехаў у нашую школу. І там, у нас у Глуску, апякун прыйшоў да высновы, што першыя тры гады дзяцей трэба вучыць, як тады ён казаў, на беларускім дыялекце. З наведзінаў нашае школы ён зрабіў грунтоўны рапарт ды паслаў у Пецярбург. У Пецярбургу нейкі час справу трымалі, разглядалі, але пасьля з такім паглядам не згадзіліся ды загадалі працягваць навучаньне на расейскай мове. Гэта быў моцны ўдар і для нас, настаўніц, і для інспэктара, і для апекуна. Мы гэтую адмову моцна перажывалі, аднак зрабіць нічога не маглі.

— Так, Надзея Аляксандраўна, нам было цяжка вучыцца, бо мы бадай нічога не разумелі, — пацьвердзіў я.

Яна тады ўсьміхнулася ды вяла гутарку далей:

— І гэта была справа ня толькі ў мове. Аснова вашае цяжкасьці з разуменьнем ляжала ў зьмесьце, тэматыцы паданага матар'ялу. Вось я дам прыклад: я вас вучыла расейскія песьні, аднак вы гэтых песьняў у інтэрнаце ніколі не сьпявалі, вы сьпявалі свае песьні, бо яны былі вам бліжэйшыя і зьместам і духам. Таксама з нашай школьнай бібліятэкай — я была яе загадчыцай і мусіла складаць рапарт, якія кніжкі чытаюцца найбольш. На першым месцы стаяў «Князь Сярэбраны» Аляксея Талстога, за ім ішлі Гогаль, Данілеўскі і далёка ззаду былі Пушкін ды іншыя. Для мяне тады стала ясным, што дзеці ў першую чаргу цікавяцца тым, што яны разумеюць, што ім блізкае духова. У кнізе «Князь Сярэбраны» апісвалася Літва, да беларускага жыцьця падобныя і апісаньні ў Гогаля і Данілеўскага, і таму вы іх чыталі. І вось такога блізкага вам духовага матар'ялу ў школе было вельмі мала, і таму і дзеля мовы, і дзеля зьместу школа не была вам блізкай, дык вы яе і не любілі, — закончыла мая настаўніца.

Гэта былі мае першыя і апошнія ў яе наведзіны. Хутка выйшаў дазвол маладому каманднаму складу выходзіць у запас. Я з гэтае магчымасьці скарыстаў, паступіў ва ўнівэрсытэт, а там былі новыя клопаты і не заставалася часу разгульваць. Праўда, раз ці два я сустракаў настаўніцу на вуліцы, і заўсёды яна мне расказвала, што новага ў Глуску, а я абяцаў, што, як толькі стане свабадней з часам, я да яе ізноў зайду.

Аднак час ляцеў. Надышоў 1930 год. Мяне арыштавалі, два разы судзілі, саслалі, і на Беларусь я змог вярнуцца толькі ў 1942-м. 26 чэрвеня 1942 году я на таварным цягніку прыехаў у Менск. Страшэнна выглядаў тады горад — усё спаленае, разбуранае, чорнае.

Ідучы на Камароўку, у наш раён, я ўздумаў прайсьці праз Шпітальны завулак, дзе жыла мая настаўніца. Мне было цяжка знайсьці нават і сьляды завулку — ўсё было спаленае, і толькі невялікая сьцежка была расчышчаная для хады. Прайшоў я да сярэдзіны завулку і недалёка ад сьцежкі ўбачыў невялічкі крыжык. Падышоў бліжэй і на дошчачцы прачытаў:

Надзея Аляксандраўна
САВІЧ
задушылася ад дыму
чэрвень 1941 г.

Як нажом разанула па сэрцы. Хоць і ня надта я быў сэнтымэнтальны — камок падышоў да горла. Вось я стаяў яшчэ перад аднэй трагедыяй нашага народу. Мая настаўніца ўсё жыцьцё працавала для народу, а пахаваная тут, на вуліцы, і калі вуліцу расчысьцяць, ейная магілка будзе зьнішчаная.

А зрабіла гэтая настаўніца нямала. Толькі з глускае школы выпусьціла яна колькі сотняў хлапцоў, сярод якіх колькі дзясяткаў уключыліся ў рух беларускага адраджэньня. Не зважаючы на суворую русыфікацыю, яна ўсё-ж патрапляла ня нішчыць дзіцяці духова, а наадварот — падтрымоўваць і разьвіваць у ім любоў да свайго краю. Яшчэ тады, у тыя далёкія часы, яна аналізавала, што адбывалася навакол, і дамагалася ўвядзеньня ў школе беларускае мовы. У беларускі нацыянальны рух мае землякі ўключыліся, дзякуючы ейнай любасьці да свайго краю, дзякуючы ейнаму падыходу да вучняў, ейнаму такту і глыбокай народнай мудрасьці. Думаю, што такіх настаўнікаў у нас былі тысячы. У Беларусі ім некалі будзе пастаўлены помнік.

***Яўхім Кіпель. «Эпізоды». Нью Ёрк. Выдавецтва газэты «Беларус». 1998. С. 1-21.***




**ОБЪЯВЛЕНИЕ**

Если вас необоснованно уволили с работы, задержали выплату зарплаты, отказали в рассмотрении обращения, если нарушили ваше право, установленное Конституцией и законами – обращайтесь в общественную приемную Белорусского Хельсинкского Комитета.

Контактный телефон: 41522 (Игорь Кирин)



*Желающих регулярно получать «Глускую панораму» просим сообщить об этом в редакцию газеты.*

№ 24-25 (51-52)
Декабрь 2008 г.
Глуская
ПАНОРАМА

*Общественно-политическая газета.*
*Выходит с июля 1998 г. Редактор - Игорь Кирин.*
*Адрес для писем: 213879, г.п. Глуск, ул. Кирова, 43-18.*
*Тираж - 200 экз. Тел. 41522. E-mail: glu-cl@mail.ru*
*http://www.gluskonline.net*